Наша Свабода

№134(221) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

10 СНЕЖНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

# 53 гады Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека




Гэты здымак быў зроблены ля будынка КДБ год таму. Становішча з правамі чалавека не змянілася

*10 снежня 1948 году Генеральная Асамблея Арганізацыі Аб'яднаных Нацый зацвердзіла і абвясціла Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека. Прыняўшы гэта рашэнне гістарычнае значнасці, Асамблея звярнулася з заклікам да ўсіх дзяржаваў – членаў Арганізацыі абнародаваць тэкст Дэкларацыі і зрабіць усё магчымае для «яе распаўсюджвання, абвяшчэння і растлумачэння, галоўным чынам у школах і іншых навучальных установах, без адрознення, якое заснавана на палітычным статусе краін або тэрыторый».*

З таго часу прайшло 53 гады. Але і сёння ў Беларусі большасць артыкулаў Дэкларацыі не выконваецца:

«...

**Артыкул 2**

Кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі і ўсімі свабодамі, што абвешчаны гэтай Дэкларацыяй, без якога б там ні было адрознення, як напрыклад у адносінах расы, колеру скуры, полу, мовы, рэлігіі, палітычных або іншых перакананняў, нацыянальнага або сацыяльнага паходжання, маёмаснага, саслоўнага або іншага становішча.

Апрача таго, не павінна рабіцца ніякага адрознення на аснове палітычнага, прававога або міжнароднага статусу краіны або тэрыторыі, да якой чалавек належыць, незалежна ад таго, ці з'яўляецца гэта тэрыторыя незалежнай, падапечнай, несамакіравальнай, або як-небудзь інакш абмежаванай у сваім суверэнітэце.

**Артыкул 3**

Кожны чалавек мае права на жыццё, на свабоду і на асабістую недатыкальнасць.

**Артыкул 5**

Ні над кім не павінны ўчыняцца катаванні або жорсткія, бесчалавечныя або ўніжаючыя яго годнасць абыходжанне і пакаранне.

**Артыкул 7**

Усе людзі роўныя перад законам і маюць права, без усякага адрознення, на роўную абарону закону. Усе людзі маюць права на роўную ахову ад якой бы там ні было дыскрымінацыі, што парушае гэту Дэкларацыю, і ад якога б там ні было падбухторвання да такой дыскрымінацыі.

**Артыкул 9**

Ні над кім не павінны ўчыняцца самавольны арышт, затрыманне або выгнанне.

**Артыкул 10**

Кожны чалавек, для вызначэння яго правоў і абавязкаў і для ўстанаўлення абгрунтаванасці прад'яўленага яму крымінальнага абвінавачання, мае права, на падставе поўнай роўнасці, на тое, каб яго справа была разгледжана публічна і з захаваннем усіх патрабаванняў справядлівасці незалежным і непрадузятым судом.

**Артыкул 11**

1. Кожны чалавек, які абвінавачваецца ў злачынстве, мае права лічыцца невінаватым да таго часу, пакуль яго вінаватасць не будзе ўстаноўлена законным парадкам шляхам публічнага судовага разбору, пры якім яму забяспечваюцца ўсе магчымасці для абароны.

Заканчэнне на стар.3

## «Бажэлка адмаўляе недарэчна»

7 снежня ў судзе па «справе групы Ігнатовіча» быў дапытаны ў якасці сведкі былы генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь Алег Бажэлка. Нагадаем, што закрыты працэс над групай з 4 чалавек праходзіць у памяшканні Вярхоўнага суду Рэспублікі Беларусь пад старшынствам суддзі Вярхоўнага суду Аляксандра Сіманава.

Бажэлка адмаўляў факт сваёй сустрэчы з Паўлам Шараметам і, адпаведна, размову з ім. Шарамет жа, раней дапытаны ў судзе, заявіў, што падчас знаходжання Бажэлкі ў Расіі сустрэўся з ім і той расказаў пра падрабязнасці «справы Ігнатовіча». З Бажэлкавых словаў вынікала, што да выкрадання аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага маюць дачыненне супрацоўнікі спецслужбаў і асабіста тагачасны кіраўнік Савета бяспекі Віктар Шэйман.

Заканчэнне на стар.3

## Сойм БНФ перад з'ездам

У мінулую суботу сябры партыі і руху БНФ правялі свой апошні перад з'ездам Сойм. Нечакана ён не проста стаў падрыхтоўкай да падзеі наступнага тыдня, а яшчэ і выявіў канкрэтныя супярэчнасці ў разуменні некаторых пытанняў.

У прыватнасці, гэта датычылася працэдуры вылучэння і выбараў старшыні, намеснікаў і сябраў Сойму. Цяперашняе кіраўніцтва партыі нечакана вынесла свае працэдурныя прапановы, якія значна ўскладняюць, а часам робяць і немагчымым вылучэнне некага на вызначаную ім пасаду. У прыватнасці, каб балатавацца на старшыню, трэба было... збіраць подпісы сярод дэлегатаў з'езду, як на прэзідэнцкіх выбарах. Але нічога не казалася пра тое, у якія тэрміны будзе праходзіць збор подпісаў і хто будзе правяраць іх сапраўднасць. У выніку Сойм гэтую прапанову кіраўніцтва партыі, якую, у прыватнасці, адстойвалі В.Вячорка і В.Івашкевіч, не прыняў і пакінуў усё як раней.

Найбольшыя спрэчкі выклікала пытанне выбару намеснікаў. Прапаноўвалася, каб выбары больш увогуле не праводзіліся, а намеснікаў сабе набіраў у патрэбнай колькасці старшыня. З залі пачуліся абвінавачанні кіраўніцтва партыі і руху ва ўводзе аўтарытарызму. І гэтая прапанова пасля доўгіх спрэчак таксама з трэскам правалілася. У выніку, калі б такая прапанова прайшла, на пасаду намеснікаў не змаглі б балатавацца тыя, хто не ідзе ў камандзе з ніводным кандыдатам, як, напрыклад, Аляксей Янукевіч, інтэрв'ю якога было надрукавана ў НАШАЙ СВАБОДЗЕ на мінулым тыдні. А гэта, па словах аднаго з выступоўцаў, ужо было б парушэннем дэкларацыі правоў чалавека ў пункце «...кожны мае права абіраць і быць абраным...».

Пасля спрэчак Віктар Івашкевіч пачаў кідаць у залю прапановы кшталту: «Давайце ўжо высветлім, хто ж будзе балатавацца на старшыню». У выніку аб сваім намеры заявілі Вінцук Вячорка, Вячаслаў Сіўчык (упершыню афіцыйна) і – незразумела, ці жартам, ці ўсур'ёз, — сакратар управы Юрась Пальчэўскі. Ці пацвердзіць апошні свой намер на з'ездзе – засталося невядомым.

З'езд жа пройдзе 15 і 16 снежня ў ПК «Сукно». У першы дзень у вялікай залі з 11 раніцы да 9 вечара, а ў другі – у малой залі з 10 раніцы да 2 гадзінаў дня.

**Віктар СЕВЕРЦАЎ**

**ВЕСТКІ**



## Юбілей «МакДональдсу»

10 снежня пяцігоддзе сваёй прысутнасці ў нашай краіне, дакладней — пакуль толькі ў Мінску, адзначае рэстарацыя «МакДональдс». Штодня тут сілкуюцца гамбургерамі ды іншымі экспрэсстравамі каля 20 тысяч мінчукоў.

## Пунктаў пропуску на мяжы паболее

Беларусь прапанавала Польшчы павялічыць колькасць пунктаў пропуску на мяжы паміж дзвюма краінамі. У прыватнасці, гаворка ідзе пра магчымае стварэнне двух новых пунктаў пропуску паблізу Гродна і Брэсту. «Мы лічым, што гэтае пытанне трэба разглядаць, — сказаў старшыня Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў А.Паўлоўскі. – Чым больш будзе пунктаў пропуску, тым больш будзе ісці тавараў, тым больш будзе працаваць эканоміка як Заходняй Еўропы, гэтак і краінаў СНД».

## Прававы інтэрнэт-партал

У Беларусі ствараецца нацыянальны прававы інтэрнэт-партал з базамі звестак агульнадзяржаўнай, муніцыпальнай і ведамаснай заканадаўчай інфармацыі. Праўда, яна будзе прадстаўленая толькі на рускай і англійскай мовах. Беларуская мова ігнаруецца.

## Разбураная «Радзіма»

7 снежня ў Маларыце, што на Брэстчыне, разваліўся кінатэатр «Радзіма». Гэта адбылося без нейкага вонкавага ўздзеяння – само сабой. У будынку кінатэатра рухнулі перакрыцці і апоры, на якіх трымаліся сцены. Абышлося без чалавечых ахвяраў. Спецыялісты кажуць, што кінатэатр, пабудаваны ў 50-ых гадах мінулага стагоддзя, аднаўленню не падлягае.

## Жорсткія прысуды

Як паведаміў намеснік Генеральнага пракурора Беларусі Аляксандр Іваноўскі, летась смяротны прысуд быў вынесены чатыром асобам. У гэтым годзе такі вырак атрымалі таксама чацвёра. Апрача таго, яшчэ 18 чалавек былі асуджаныя сёлета на пажыццёвае зняволенне.

## Выязная сацыяльная цырульня

У рамках ажыццяўлення праграмы па стварэнні Цэнтру сацыяльных работ для інвалідаў бліжэйшым часам у Мінску з'явіцца цырульня, якая будзе абслугоўваць ветэранаў, інвалідаў і насельнікаў дамоў для састарэлых. Цырульнікі будуць прыходзіць да іх дадому два дні на тыдзень.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1580**

# БСДГ(НГ) па галоўным пытанні не вызначылася

Мікалай Статкевіч захаваў за сабою пасаду старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада). Такі асноўны вынік нечарговага з'езду партыі, які прайшоў у Мінску 8 снежня з удзелам каля 200 дэлегатаў. Статкевіча падтрымалі больш за 90 працэнтаў прысутных.

З'езд таксама прыняў шэраг дакументаў пра палітычную сітуацыю ў Беларусі і дзейнасць БСДП (НГ). У прыватнасці, у рэзалюцыі «Аб выніках выбараў і прынцыпах дзейнасці партыі» зазначаецца: прэзідэнцкія выбары паказалі, што левы фланг палітычнага спектру Беларусі на чале з БСДП (НГ) найбольш арганізаваны і падрыхтаваны да барацьбы ва ўмовах дыктатуры, тым часам як правыя арганізацыі «аказаліся больш зацікаўленымі ў малаэфектыўнай, але больш даходнай мабілізацыйнай кампаніі». Выбарчая кампанія, канстатуецца ў дакуменце, «выявіла не толькі неэфектыўнае выкарыстанне сродкаў і рэсурсаў, прыцягнутых на выбары, але і злоўжыванне матэрыяльнымі сродкамі з боку асобных калег партыі па шырокай грамадзянскай ініцыятыве, а таксама з боку створанага пасля 14 жніўня аб'яднанага штабу, у якім не аказалася ніводнага прадстаўніка БСДП».

Асноўнымі прынцыпамі сваёй далейшай дзейнасці сацыял-дэмакраты лічаць удзел ва ўсіх будучых выбарчых кампаніях, у тым ліку ў мясцовых выбарах у 2003 годзе, парламенцкіх — у 2004 годзе і прэзідэнцкіх — у 2006 годзе. Што тычыцца выбараў у беларуска-расійскі саюзны парламент, то з'езд перадаў паўнамоцтвы на вырашэнне гэтага пытання Цэнтральнаму камітэту партыі.



З'езд таксама прыняў рэзалюцыю аб палітычных рэпрэсіях у Беларусі і ўнёс некаторыя змены ў статут партыі.

Юрый ПАЦЁМКІН

# Кіраўніком пакінулі Ганчарыка

На трэцім пленуме Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай (ФПБ), які праходзіў 6 снежня за зачыненымі дзвярыма, чатыры галіновыя прафсаюзы зрабілі спробу адправіць у адстаўку цяперашняга кіраўніка ФПБ Уладзіміра Ганчарыка.

Кіраўніцтва ФПБ планавала разгледзець толькі праблему развіцця Федэрацыі пасля прэзідэнцкіх выбараў. Аднак У.Ганчарыка абвінавацілі ва «ўцягненні прафсаюзаў у палітыку», што праявілася ў ягоным удзеле ў прэзідэнцкіх выбарах. Гэтым самым прафсаюзны лідэр, паводле ягоных апанентаў, канчаткова сапсаваў адносіны з уладай.

Прафсаюзы дзяржаўных устаноў, работнікаў аховы здароўя, падатковых органаў і мясцовай прамысловасці паставілі пытанне пра скліканне нечарговага з'езду, на якім і мусіла вырашацца пытанне з адхіленнем У.Ганчарыка ад улады. Магілёўскае абласное аб'яднанне прафсаюзаў пайшло яшчэ&далей і прапанавала ўнесці ў статут змены, якія надавалі б пленуму паўнамоцтвы здымаць і прызначаць старшыню ФПБ. Аднак гэтую прапанову яшчэ напярэдадні адхіліў прэзідыум Федэрацыі.

Пасля пленуму старшыня ФПБ У.Ганчарык зазначыў: «На пленуме змагаліся дзве пазіцыі: кансерватыўная – любой цаной, хоць на каленях, супрацоўнічаць з уладай; другая – каб прафсаюзы мелі сваю пазіцыю і выступалі як незалежныя арганізацыі. Я мяркую, перамагла другая лінія». Старшыня ФПБ лічыць, што прыдворныя прафсаюзы спрабавалі здзейсніць пераварот, «каб не было горш, каб не крытыкавалі – карацей, каб было спакойнае жыццё».

Як стала вядома, дзесьці за тыдзень улады планавалі разгарнуць у дзяржаўных СМІ цэлую кампанію супраць У.Ганчарыка. Былі запісаныя і гатовыя да паказу па БТ выступы лідэраў чатырох галіновых прафсаюзаў. Аднак гэтая кампанія так і не пачалася.

Магчыма, што атаку адмянілі з-за ўдзелу У.Ганчарыка ў з'ездзе Федэрацыі незалежных прафсаюзаў Расіі 28-29 лістапада, на якім прысутнічаў і Уладзімір Пуцін. «Я з Пуціным не сустракаўся, але старшыня ФНПР Міхаіл Шмакаў размаўляў з Пуціным пра становішча прафсаюзаў Беларусі. Былі і больш сур'ёзныя гаворкі, і былі пэўныя абяцанні Пуціна, – сказаў НАШАЙ СВАБОДЗЕ Уладзімір Ганчарык. – Былі ў мяне сустрэчы (таксама, напэўна, уліччаныя ўладай) і ў Германіі, і ў Міжнароднай арганізацыі працы, і ў Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў...», – лічыць У.Ганчарык.

Рыгор БУЯН

# «Бажэлка адмаўляе недарэчна»

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Прычынай выкрадання стала праца Завадскага ў Чачні і боязь чыноўнікаў са спецслужбаў, што ён мог даведацца што-небудзь пра тайныя аперацыі па продажы зброі чачэнскім баевікам, якімі нібыта займаліся прадстаўнікі беларускага кіраўніцтва. Акрамя таго, паводле словаў Шарамета, Алег Бажэлка расказаў яму, што некаторыя з падазроных пачалі прызнавацца ў сякіх-такіх фактах. Аднак пасля ўмяшання ў расследаванне вышэйшага кіраўніцтва краіны яны змянілі свае паказанні.

Падчас суду Бажэлка адмаўляў факт правядзення допыту аднаго з абвінавачаных — былога спецназаўца МУС Максіма Маліка — і ў цэлым факт хоць якога свайго ўдзелу ў расследаванні гэтай справы. Аднак на большасць пытанняў ён не адказаў, спаслаўшыся на Крымінальна-працэсуальны кодэкс, у артыкуле 60 якога гаворыцца, у прыватнасці, што ў судзе ў якасці сведак не могуць быць дапытаны ўдзельнікі крымінальнай справы.

У пачатку тыдня ў судзе быў дапытаны былы супрацоўнік Службы бяспекі прэзідэнта Аляксандр Леаненка, які цяпер служыць у спецпадраздзяленні МУС «Алмаз». Ён быў даўнім знаёмым і сябрам Валерыя Ігнатовіча. Паводле некаторых звестак, ён падазраваўся падчас следства ва ўдзеле ў выкраданні Дзмітрыя Завадскага і нават быў на кароткі час затрыманы. Віну сваю ён адмаўляе. Аднак у справе, паводле некаторых звестак, ёсць паказанні, якія выкрываюць гэтага былога ахоўніка Аляксандра Лукашэнкі ва ўдзеле ў некалькіх злачынствах. Ёсць таксама фотаробат чалавека, які ў дзень знікнення Завадскага некалькі гадзін знаходзіўся ў яго пад'ездзе. Партрэт складзены па апісаннях суседзяў і шмат у чым супадае з рэальным выглядам Леаненкі. Акрамя таго, на судзе працягваецца допыт некаторых членаў крайне правай арганізацыі РНА, адным з кіраўнікоў якой быў Ігнатовіч.

На просьбу карэспандэнта БелаПАН пракаментаваць тое, што адбылося, кіраўнік аддзелу спецыяльных праектаў ОРТ Павел Шарамет сказаў: калі суд або следчыя органы яго выклічуць, ён чарговы раз пацвердзіць факт сустрэчы. «Больш таго, гэтыя сустрэчы адбыліся ў прысутнасці некалькіх сведак, якія не толькі бачылі, але і чулі ўсе гэтыя нашы размовы і падрабязна могуць іх пераказаць, — сказаў Шарамет. — Што там гаварыў Бажэлка — я не ведаю. Але прамое адмаўленне — гэта недарэчна. Яно бесперспектыўнае, і трэба мець смеласць сказаць суду праўду». Сведкі, якія прысутнічалі пры размове Шарамета і Бажэлкі, не адмаўляюцца выступіць у беларускім судзе.

Генадзь БАРБАРЫЧ

## На ўрад і парламент спадзяюцца адзінкі

«З кім ці з чым Вы звязваеце свае спадзяванні на паляпшэнне свайго жыццёвага ўзроўню?» З такім пытаннем навукоўцы НАНБ звярнуліся да жыхароў Добрушскага раёну Гомельскай вобласці.

На анкету адказалі 447 рэспандэнтаў. Большасць з іх — 63% — «спадзяюцца толькі на сябе». 35% спадзяюцца на прэзідэнта і ягоную Адміністрацыю. На парламент і ўрад – 3%.

Леанід ІГНАЦЬЕЎ

# 53 гады Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

**Артыкул 12**

Ні над кім не павінны ўчыняцца самавольнае ўмяшанне ў яго асабістае і сямейнае жыццё, самавольны замах на недатыкальнасць яго жылля, тайну яго карэспандэнцыі або на яго гонар і рэпутацыю. Кожны чалавек мае права на абарону закону ад такога ўмяшання або такіх замахаў.

**Артыкул 13**

1. Кожны чалавек мае права свабодна перамяшчацца і выбіраць сабе месцапражыванне ў межах кожнай дзяржавы.

2. Кожны чалавек мае права пакідаць любую краіну, уключаючы сваю ўласную, і вяртацца ў сваю краіну.

**Артыкул 18**

Кожны чалавек мае права на свабоду думкі, сумлення і рэлігіі; гэта права ўключае свабоду мяняць сваю рэлігію або перакананні і свабоду спавядаць сваю рэлігію або перакананні як аднаасобна, так і разам з іншымі, публічным або прыватным парадкам у вучэнні, богаслужэнні і выкананні рэлігійных і рытуальных абрадаў.

**Артыкул 19**

Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае выражэнне іх; гэта права ўключае свабоду беспераш кодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных граніц.

**Артыкул 20**

1. Кожны чалавек мае права на свабоду мірных сходаў і асацыяцый.

2. Ніхто не павінен прымушацца ўступаць у якую-небудзь асацыяцыю.

**Артыкул 21**

1. Кожны чалавек мае права прымаць удзел у кіраванні сваёй краінай непасрэдна або пры дапамозе свабодна выбраных прадстаўнікоў.

2. Кожны чалавек мае права роўнага доступу да дзяржаўнай службы ў сваёй краіне.

3. Воля народа павінна быць асновай улады ўраду; гэта воля павінна знаходзіць сабе выяўленне ў перыядычных і нефальсіфікаваных выбарах, якія павінны праводзіцца пры ўсеагульным і роўным выбарчым праве, шляхам тайнага галасавання або пры дапамозе іншых раўназначных форм, што забяспечваюць свабоду галасавання.

**Артыкул 23**

1. Кожны чалавек мае права на працу, на свабодны выбар работы, на справядлівыя і добрыя ўмовы працы і на ахову ад беспрацоўя...

3. Кожны, хто працуе, мае права на справядлівую і здавальняючую ўзнагароду, якая забяспечвае вартае чалавека існаванне для яго самога і яго сям'і, і дапаўняецца, пры неабходнасці, іншымі сродкамі сацыяльнага забеспячэння.

4. Кожны чалавек мае права ствараць прафесіянальныя саюзы і ўступаць у прафесіянальныя саюзы для аховы сваіх інтарэсаў.

**Артыкул 25**

1. Кожны чалавек мае права на такі жыццёвы ўзровень, уключаючы харч, адзенне, жыллё, медыцынскі догляд і неабходнае сацыяльнае абслугоўванне, які неабходны для падтрымання здароўя і дабрабыту яго самога і яго сям'і, і права на забеспячэнне на выпадак беспрацоўя, хваробы, інваліднасці, удоўства, надыходу старасці або іншага выпадку страты сродкаў да існавання па незалежачых ад яго акалічнасцях.

**Артыкул 27**

2. Кожны чалавек мае права на ахову яго маральных і матэрыяльных інтарэсаў, што з'яўляюцца вынікам навуковых, літаратурных або мастацкіх прац, аўтарам якіх ён з'яўляецца.

**Артыкул 28**

Кожны чалавек мае права на сацыяльны і міжнародны парадак, пры якім правы і свабоды, што выкладзены ў гэтай Дэкларацыі, могуць быць цалкам ажыццёўлены».

Як ні прыкра гэта канстатаваць, але ў нашай краіне – нягледзячы на запэўніванні чыноўнікаў усіх узроўняў – усе гэтыя правы сістэматычна або час ад часу парушаюцца.

Юрый Захаранка, Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі, Дзмітрый Завадскі ўжо не могуць паскардзіцца, што парушана іхняе права на жыццё і свабоду (арт. 3).

Дзесяткі тысяч беларусаў, якія трапілі або траплялі за краты, ці нават проста затрымліваліся міліцыянтамі на вуліцы, могуць засведчыць аб жорсткім з імі абыходжанні або катаванні (арт. 5).

Тое, што «дзяржаўныя людзі» ў нас, як і крымінальныя «аўтарытэты», жывуць у Беларусі зусім па іншых законах, а не па тых, якія стасуюцца да звычайных грамадзянаў – гэта ўвогуле ведаюць усе (арт. 7). Наўрад ці хто ў нас сумняваецца, у якім становішчы — на справе, а не на словах — знаходзіцца судовая сістэма (арт. 10).

Грамадзянін Беларусі, які прыехаў у Мінск з правінцыі уладкоўваць сваё жыццё, адразу сутыкнецца з праблемай прапіскі, якая наўпрост парушае арт. 13 Дэкларацыі. А пасля яшчэ і з праблемай працы (арт. 23).

Іудзеі, мусульмане, пратэстанты і г.д. у нашай краіне паранейшаму адчуваюць ціск з боку ўладаў (арт. 18), толькі раней іх падштурхоўвалі змяніць свае перакананні ў бок камуністычна-атэістычных, а цяпер – у бок праваслаўных.

Беларускія журналісты ведаюць, што выкананне імі артыкулу 19-га Дэкларацыі можа пацягнуць за сабою рэпрэсіі самага рознага кшталту, ад закрыцця газеты да асабістага збіцця «невядомымі ў цывільным» або нават міліцыянтамі пры выкананні.

Што такое ў нас «свабода мірных сходаў і асацыяцый» (арт. 20), ведаюць сотні збітых, зняволеных і асуджаных беларусаў, якія паспрабавалі прыйсці на мітынг апазіцыі або праходзілі побач.

Выбары ўзору гадоў 2000-га і 2001-га знішчылі ўсякую надзею на тое, што ў бліжэйшы час кіраваць краінай будуць прыстойныя, сумленныя людзі. Гэта самае яскравае парушэнне арт. 21-га.

Спытайце аб «праве на свабодны выбар работы» (арт. 23-1) у выпускнікоў большасці беларускіх ВНУ, якіх ужо колькі гадоў запар вымушаюць працаваць там, «дзе трэба».

Іншыя часткі артыкулу 23-га таксама ў Беларусі ігнаруюцца. На парушэнне часткі 3-й («справядлівая і здавальняючая») будуць наракаць амаль усе «бюджэтнікі» (акрамя супрацоўнікаў «органаў»). На жаль, не ўсе ў нас яшчэ маюць пагоны і прыбытак капітана або хаця б сержанта міліцыі (КДБ, СБП і г.д.). І сябры Свабоднага прафсаюзу Беларускага зусім не лічаць, што ў Беларусі створаныя ўмовы, каб прафсаюзы маглі свабодна стварацца і дзейнічаць.

Прыкладаў можна прывесці куды больш – не дазваляе газетная плошча. Адно відавочна: і праз 53 гады пасля падпісан[ня] Дэкларацыі рэпрэсіўная машы[на] беларускага прэзідэнцтва, перамалоўшы праз сябе ўсе яе палажэнні, пакінула нам толькі некаторыя – і тыя ва ўсечаным выглядзе. Права на жыццё – амаль усім, але з выключэннямі, права не памерці з голаду, права на працу (тую, якую дадуць, і з непрыстойнымі заробкамі), права на шлюб і абароненае мацярынства – замацаванае законам права нараджаць новых грамадзянаў нашай шчаслівай краіны.

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

# Купляйце беларускае...

## Калі ёсць за што

*Зрабілася на дварэ вельмі халадно. Трэба, думаю, схадзіць у краму, паглядзець, што народу каштуе абагрэцца. Лепей бы не хадзіў, бо пачаў з жахам глядзець на свае чаравікі і вопратку. А як раптам парвуцца, што рабіць? Яно, кажуць, начальству відней, што рабіць.*

| | БЕЛАРУСЬ | ФРАНЦЫЯ | НЯМЕЧЧЫНА | ЗША |
|---|---|---|---|---|
| Сінтэтычныя ніткі, кг | 44 | 4 | 16 | 16 |
| Тканіны, м² | 39 | 26 | 26 | 55 |
| Скураны абутак, пар. | 5 | 3 | 1 | 1 |

Але ці можа сапраўдны рэвалюцыянер спаць спакойна, пакуль чыгунка, банкі, розныя там масты не захопленыя? Не! Ды ўвогуле не можа думаць сапраўдны рэвалюцыянер пра розныя там шкарпэткі і іншую прадукцыю лёгкай прамысловасці.

Калі ўжо думаць пра вытворчасць, то якіх-небудзь танкаў альбо агнямётаў. Шарах-бабах – дарога закурэла, а ад шалёнага звяругі-ворага засталіся чорныя галавешкі. Прыемна!..

Пра лёгкую прамысловасць здольныя думаць адно дэпрэсіўнага выгляду дзеячы накшталт савецкага прэм'ера А.Касыгіна. Каб не гэны ціхі і ўпарты чалавек, то сёння б хадзілі мы яшчэ горай апранутыя. Штука ў тым, што быў ён спецыяліст! І пры саветах не толькі вызначыў для Беларусі лёгкую прамысловасць як спецыялізацыю, але і дагледзеў, каб стварылася функцыянальная, эфектыўная галіна вытворчасці. У выніку ў 1990 годзе мы ўжо давалі дзесятую частку ад сусветнай вытворчасці лёну, траціну СССРаўскіх сінтэтычных нітак, кожны адзінаццаты метр савецкай тканіны. Не горш выглядалі справы і з абуткам, трыкатажам, дыванамі і іншымі карыснымі рэчамі.

Гэта дазваляла нам вельмі прыстойна выглядаць на сусветным рынку. Дастаткова паглядзець на сярэднія паказчыкі вытворчасці такога кшталту прадукцыі на душу насельніцтва ў чатырох краінах у 1990 годзе (глядзі табл.).

Зразумела, што ўмацоўвала нашую лёгкую прамысловасць не добрае слова дзядулек з ЦК КПСС, а фінансы, якія яны сюды накіроўвалі.

Потым айчыннае кіраўніцтва адкалолася ад цэнтру і пачало займацца лакальнымі разборкамі. У выніку ўдзельная вага інвестыцыяў у лёгкую прамысловасць у адносінах да ўсёй прамысловасці за апошнія дзесяць гадоў скарацілася ўдвая – з 8 да 4%, удвая скарацілася і доля галіны ў структуры прамысловасці.

Такое для ўсіх сталася крыху нечаканым, бо супярэчыла нават стратэгічнай лініі беларускіх рэвалюцыянераў.



Лёгкая прамысловасць, якая робіць тое, што патрэбна мірным спажыўцам, першая кінулася ў капіталізм. Дзяржаўных прадпрыемстваў у ёй зараз ці не найменш.

Савецкі вал нізкаякаснай прадукцыі пацяху замяніўся такім чынам на сертыфікаваныя беларускія вырабы, якіх ужо амаль дзве траціны ад агульнага выпуску. Дый шлях да ўзроўню 1990 году, які пачынае нагадваць шлях да камунізму, айчынная лёгкая прамысловасць ужо прайшла.

Больш за тое, пятая частка занятых на прадпрыемствах – з замежнымі інвестыцыямі, і адпаведна пятая частка тых інвестыцыяў прыпадае на шаўцоў, краўцоў ды іхных пастаўшчыкоў.

Але шчасця вялікага тут няма. І прычыну добра відаць: словы «нацыянальны інтарэс» зрабіліся ў вуснах ідэолагаў рынкавага сацыялізму нечым падобным да лаянкі, і нашыя вытворцы спажывецкіх тавараў спакваля страчваюць звыклыя рынкі збыту.

Цэны паўзуць угару так, што і ўнутраны рынак пачаў хістацца пад націскам кітайскага, турэцкага, малайскага імпарту. Вось і сёлета сярод вытворцаў спажывецкіх тавараў індэкс цэнаў лёгкай прамысловасці вышэйшы за рост даходаў насельніцтва.

Дзіўна, што галіны вытворчасці, якім ідэолагі сусветнага капіталізму наканавалі лідэрства ў пераходнай эканоміцы, у Беларусі лідэрамі не робяцца. Заходнія назіральнікі тлумачаць тутэйшае адхіленне ад хрэстаматыйных прыкладаў недастатковай рэструктурызацыяй і малой доляй прыватнага сектару.

Незалежна ад таго, хто ўласнік, працаваць яму даводзіцца вычварэнскім чынам, як пішуць рэпарцёры крымінальнай хронікі. Інакш не атрымліваецца, бо надта высокі ўзровень выдаткаў на рэалізаваную прадукцыю.

Адзін з фактараў такой бяды закладзены яшчэ савецкімі планавікамі – гэта ўзровень цэнтралізацыі. На першы погляд падаецца, што ў параўнанні з якім МТЗ усе гэтыя ніткі-голкі – так сабе, драбніца. Але аналіз сведчыць, што і там добрую палову вытворчасці дае дзесятая частка прадпрыемстваў. Наша ўлада любіць трымаць лейцы ў адной руцэ. Таму цэнтралізацыя нават узмацняецца.

Больш за тысячу прадпрыемстваў выпускаюць карысную і менш карысную прадукцыю, а ўсяго дзесяць першых даюць дзесяць адсоткаў выпуску. Вынікае з беларускага досведу адно: манеўравасць на рынку – галоўны козыр таго, хто працуе на масавага спажыўца. Манеўравасць – гэта і цэны, і якасць, і ўлік тэндэнцыяў моды.

Што да цэнаў, то па найбольш ходавым асартыменце мы набліжаемся да расейскіх канкурэнтаў, часам перамагаем. Але якасць тавару шматлікіх СП, што панарабілі рускія з заходнімі партнёрамі, павінна выклікаць зайздрасць і непакой у нашых лідэраў шырспажыву.

Айчынныя тавары ледзьве не на чвэрць таннейшыя, чым у сярэднім у свеце. Можна радавацца, абганяючы іх у долі экспарту. Можна шыць натаўскім сокалам шапкі і бронекамізэлькі. Усё можна, што не забаронена.

Але думаць хочацца пра дзве рэчы: каб ішлі нашы тавары з беларускім знакам якасці — і каб так стала назаўсёды. Дарэчы, не забываючыся пра сярэднюю заработную плату калгасніка ў параўнанні з цаной, напрыклад, аднае пары нармальных чаравікаў. А то калгаснікі ў нас неяк нямодна апранаюцца.

**Юзік ЛАБЭЦКІ**

ЮБІЛЕЙ

# Нобелеўская прэмія і здань Эйнштэйна

**Андэрс БАРАНІ,**
**прафесар фізікі Стакгольмскага універсітэту, галоўны куратар музею Нобеля, вучоны сакратар Нобелеўскага камітэту па фізіцы**



Сёння, 10 снежня, адзначаюцца сотыя ўгодкі з дня першых узнагароджанняў Нобелеўскімі прэміямі. З тае пары і да нашых дзён яны ўсцяж выклікаюць да сябе моцную цікавасць і служаць прадметам няспынных дыскусіяў.

Альфрэд Нобель памёр 10 снежня 1896 году. Калі яго тастамент быў ускрыты, то выявілася, што ўвесь свой вялізны набытак ён аддаў на заснаванне прэміі, якая цяпер носіць яго імя. Былі названы пяць прэміяў: па фізіцы, хіміі, фізіялогіі або медыцыне, літаратуры і прэмія за мір; таксама былі названы чатыры арганізацыі, адказныя за прыняцце рашэнняў па прысуджэнні прэміяў: Каралеўская акадэмія навук Швецыі (па фізіцы і хіміі), Каралінскі інстытут (па фізіялогіі або медыцыне), Шведская акадэмія (па літаратуры) і група, прызначаная нарвежскім парламентам, якая пазней атрымала назву «Нобелеўскі камітэт Нарвегіі» (за мір). Тады Швецыя і Нарвегія былі ў адным саюзе.

З моманту заснавання Нобелеўскае прэміі было выдадзена больш за 650 медалёў і дыпломаў за заслугі ў галінах, першапачаткова вызначаных самім Нобелем. У 1968 годзе Банк Швецыі ў памяць пра Альфрэда Нобеля заснаваў прэмію ў галіне эканамічных навук. Бальшыня гэтых прэміяў звязаная з навуковымі адкрыццямі, літаратурнымі шэдэўрамі і спробамі ўнесці мір у гэты бурны век.

Повязь, што яднае ўсіх нобелеўскіх лаўрэатаў, — паняцце творчасці (як індывідуальных творчых здольнасцей, так і творчага атачэння). Адна з такіх гісторыяў – гісторыя Нобелеўскага лаўрэата ў галіне фізікі Альберта Эйнштэйна — яскравы таму прыклад. Напэўна, найчасцейшае пытанне пра Нобелеўскую прэмію ў галіне фізікі — чаму Эйнштэйн не атрымаў прэміі за сваю тэорыю адноснасці?

У 1905 годзе, у свой *«annus mirabilis* («дзівосны год» (лац.), год найвышэйшых дасягненняў), у веку 26 гадоў Эйнштэйн апублікаваў тры працы, якія зрабілі ўплыў на ўсё XX стагоддзе, не толькі на фізіку. Адна з гэтых прац тычылася спецыяльнай тэорыі адноснасці — у ёй апісвалася сувязь паміж прасторай і часам або масай і энергіяй пры высокіх хуткасцях. У другой працы апісваўся «броўнаўскі рух», хаатычны рух дробных часцінак у вадкасці, які ўзнікае ў выніку іх сутыкненняў з малекуламі вадкасці. І, нарэшце, у трэцяй працы тлумачыўся фотаэлектрычны эфект – чаму святло можа прымусіць электрычнасць пакідаць металічныя паверхні. Гэта з'ява, якую мы ўжываем у звычайных фотаэлементах.

З трох гэтых тэорыяў пра тэорыю адноснасці было напісана і сказана найбольш. Калі Каралеўская акадэмія навук Швецыі год за годам прасіла навукоўцаў вылучаць сваіх кандыдатаў, шмат хто казаў, што Эйнштэйн варты Нобелеўскае прэміі па фізіцы за сваю спецыяльную тэорыю адноснасці. Але Нобелеўскі камітэт па фізіцы з гэтым не згаджаўся, і шмат гадоў Эйнштэйну не прысуджалася аніякае прэміі!

Спярша Нобелеўскі камітэт сцвярджаў, што тэорыя, магчыма, памылковая, і што будзе лепш пачакаць, пакуль не будуць атрыманы эксперыментальныя доказы, якія б яе пацвярджалі. Пасля таго як Эйнштэйн абагульніў сваю тэорыю і ўвёў у яе скрыўленую прастору-час, у якой святло агінае масіўныя астранамічныя целы, колькасць прапановаў аб яго ўзнагароджанні вырасла яшчэ больш.

Але ў склад Нобелеўскага камітэту па фізіцы ўваходзіў уплывовы навуковец Альвар Гульстранд, прафесар Упсальскага універсітэту і Нобелеўскі лаўрэат 1911 году ў галіне фізіялогіі і медыцыны, які атрымаў сваю прэмію за працу аб напрамках руху святла ў воку. Ён лічыў, што Эйнштэйн памыляўся, і спрабаваў давесці гэта сваімі ўласнымі разлікамі. Сёння мы ведаем, што Гульстранд не меў рацыі, але ягонае думкі было дастаткова, каб заблакаваць працэс прысуджэння прэміі.

Аднак другі прафесар з Упсалы, спецыяліст у галіне матэматычнае фізікі, Карл Вільгельм Озеен, зразумеў тэорыі Эйнштэйна; яшчэ ён лічыў, што ў Нобелеўскім камітэце па фізіцы патрэбны баланс улады. І пасля свайго абрання ў сябры Акадэміі ён у 1921 годзе першым прапанаваў прысудзіць Эйнштэйну Нобелеўскую прэмію за ягоныя працы па фотаэфекце. Гэтае адзінае вылучэнне на атрыманне Нобелеўскае прэміі схіліла шалі на карысць Эйнштэйна.

Озеен быў абраны сябрам Нобелеўскага камітэту і напісаў станоўчы водгук на тэорыю фотаэлектрычнага эфекту. І ўжо наступным годам Альберт Эйнштэйн атрымаў Нобелеўскую прэмію па фізіцы за 1921 год «за ягоны ўнёсак у развіццё тэарэтычнае фізікі, асабліва ж за адкрыццё ім закону фотаэфекту».

Вось жа, ці памылілася Каралеўская акадэмія навук, калі прысудзіла Нобелеўскую прэмію Эйнштэйну не за тое, што бальшыня людзей схільна лічыць яго найважнейшым інтэлектуальным дасягненнем? Шмат хто сцвярджаў, што так і было. Але перш чым выносіць канчатковы вердыкт, трэба крыху бліжэй пазнаёміцца з гісторыяй фізікі.

З гэтае гісторыі ясна, што праца Эйнштэйна, апублікаваная ў 1905 годзе, не толькі патлумачыла фотаэфект, але і заснавала аснову нечага нашмат значнейшага, нечага рэвалюцыйнага: яна ўвяла паняцце фатону, хвалі-часціцы, якое не толькі ляжыць у аснове нашага разумення мікра- і макракосму, але і шырока ўжываецца ў тэхніцы, напрыклад, у медыцынскіх лазерных скальпелях і лазерных дыёдах, якія ўжываюцца пры перадачы інфармацыі цераз інтэрнэт. Такім чынам, увядзенне Эйнштэйнам паняцця фатону значна перавышае паводле важнасці стварэнне ім тэорыі адноснасці! А ў тэксце тастаменту Альфрэда Нобеля патрабуецца, каб нобелеўскі лаўрэат прынёс як найбольшую карысць чалавецтву.

У адпаведнасці з гэтым сёння пяць Нобелеўскіх камітэтаў працягваюць сваю працу, галоўным чынам у тых самых напрамках, што і на пачатку XX стагоддзя. Істотная розніца палягае толькі ў колькасці вылучаных кандыдатаў, якая ў нашыя дні вось-вось пераваліць за некалькі соцень. І толькі будучыня пакажа, ці не хаваецца сярод соцень кандыдатаў новы Альберт Эйнштэйн!



# Успомніце каму і напомніце яму

*Жывем добра, будзем жыць яшчэ лепш. Такое ўражанне ўзнікае, калі бываеш дзе-небудзь «у глыбінцы» ды чытаеш «глыбінныя» газеты – так званыя «раёнкі».*

Гэта тым больш прыемна, што, захаваўшы нязменным асноўны прынцып «усё для ўлады і ў імя ўлады», яны сталі практыкаваць і такія ліберальныя формы, як рэкламныя абвесткі, віншаванні з нагоды вяселляў ды хрэсьбінаў і нават увялі «прамыя лініі».

Вось як працуе такая лінія ў рэчыцкім «Дняпроўцы». На пейджэр нехта скідвае пытанне, а дасведчаныя супрацоўнікі на іх адказваюць. Пытаецца, прыкладам, нехта: *«Как получить деньги за телят, которых сдали еще весной прошлого года? Может, подавать в суд?»* А рэдакцыя адказвае: на жаль, не была названая гаспадарка, якой Вы здалі (выходзіць, аддалі) цялушачак. Таму сустрэчнае пытанне: *«Может, это «40 лет Октября», «50 лет Октября» или «Советская Белоруссия»*? І адпаведная парада: *«Вспомните, кому, напомните ему, а потом можно и в суд...»*

Сама ж рэдакцыя друкуе спіс грамадзян, якія не плацяць падаткі на нерухомасць ды зямлю. Можа гэта і ёсць тыя небаракі, што здалі быдла ў нейкую там *«Советскую Белоруссию»*? Дык грамадзян бэсціць можна, а гэтых *«советских»* – не?

Дурдом нейкі. Але ж ёсць і весткі радасныя. Прыкладам, у калгасе «Новы шлях» упершыню ў гісторыі Рэчыцкага раёну зладзілі конкурс прыгажосці. Цяпер у вёсцы Ліскі жыве «Міс Палессе», якая перамагла дзевяць канкурэнтак.

А ў грамадска-палітычнай газеце «Голас Расоншчыны» свае прыколы. Старшыня райвыканкаму П.Пяткевіч у сваім каментары да статыстыкі па заробках, першы радок у якой займаюць працаўнікі раённага аддзялення Белаграпрамбанку (233 у.а.), адзначае, што гэта ў 7-8 разоў вышэй за заробкі калгаснікаў – кліентаў банку, дый тыя яны атрымліваюць з затрымкай на 2-3 месяцы. Мо таму занадта жыруюць банкіры?

Але ж і калгасы павінны грошы зарабляць, а не касавурыцца на чужыя, што ў банку ляжаць. А пакуль што страты іх растуць. Калі за восем месяцаў мінулага году страты прадпрыемстваў раёну склалі 124 млн. рублёў, то зараз падскочылі амаль утрая – да 351 мільёна беларускае зеляніны.

А вось у Ляхавічы на завод «Металапластмас», як паведамляе мясцовы «Веснік», прыйшлі «брытанскія інвестыцыі». Праўда, памер «інвестыцыяў» не называецца (можа, мільярд фунтаў?), але ўпэўненасцю ў светлай будучыні дыхае кожны радок артыкула.

«Нашу Талачыншчыну» непакоіць адсутнасць палива ў Райсельгасхіміі, запазычанасць гаспадарак за электраэнергію і дрэнная якасць мясцовага хлеба, якую безнадзейна спрабуюць палепшыць ужо шмат гадоў, як і ўсюды ў моцнай і квітнеючай Беларусі. Нават калі міліцыя выказвае занепакоенасць тым, што на «так званых дыскатэках» квасяць гарэлку 13-15–гадовыя падлеткі, – гэта не местачковая самабытнасць, а норма для адпачынку моладзі паўсюль. Ды, можа, яно і добра – не палезуць у палітыку.

А ў навагрудскім «Новым жыцці» ў перадавіцы дзівяцца з таго, што на суботнім кірмашы няма ні бульбы, ні моркаўкі. А трэба ж вітаміны назапашваць. Дзівяцца, бы не ведаюць, што бульбачкі сёлета няшмат, дый дробненькая яна.

Пра якія толькі дзівосы ні даведаешся, чытаючы гэту нашую раённую прэсу, што выдаецца на дзяржаўныя, на нашы з вамі грошы. Вось якімі асэнсаваннямі дзеліцца з чытачамі «Нашага жыцця» (Мінскі раён і Заслаўе) намеснік старшыні райвыканкаму І.Зіновіч: *«Для снижения заболеваемости венерическими заболеваниями... необходима работа всех причастных к проблеме ведомств, так как эти инфекции являются социальными»*.

Вось «причастное к венерическим заболеваниям» начальства і працуе.

Няма чаго дадаць.

**Кастусь СКУРАТОВІЧ**

ПОШТА

# Латают дыры

Я работаю в социальной сфере. Все пенсии и пособия мы выплачиваем из отчислений предприятий и колхозов. То есть при получении в банке денег на зарплату колхозы и предприятия должны 30% перечислять в фонд социальной защиты. Причем обязательно, иначе люди могут остаться без пенсий. Об этом есть строгий Указ президента № 318 от 2000 г. и об этом же написано в законе о подоходном налоге с граждан.

А на самом деле эти 30% во многих районах области давно не перечисляют. Райисполкомы дают команду банкам выдавать деньги только на зарплату. Сложилась критическая ситуация. Тогда дали прокурорам у нас в области и районах приказ проверить, так ли это.

Я знаю со слов работников прокуратуры, что они проверили и вынесли предписания, чтобы не нарушался закон. Вроде бы с требованиями районных прокуратур сразу согласились и банки, и местные власти, и, конечно же, социальная служба.

Стало нечем платить зарплату. Тогда «губернатор» в конце октября собрал председателей райисполкомов и потребовал выдавать и дальше распоряжения в банки о выдаче денег только на зарплату, без уплаты других отчислений.

Уже наше начальство стонет, что пенсии скоро платить будет нечем. Вот тогда найдут крайних и дела уголовные заведут.

**А.ТУЧИНА, Гродно**

# Мастакоўскія надзеі

*Старшынём Беларускага саюза мастакоў графік Уладзімір Басалыга быў абраны на мастакоўскім з'ездзе як кампрамісная, прамежкавая асоба паміж кандыдатамі правых і левых палітычных поглядаў. Таму не дзіўна, што ў інтэрв'ю НАШАЙ СВАБОДЗЕ ён заявіў, што перамены БСМ патрэбныя, але «рэвалюцыяў рабіць» ён не збіраецца.*

Карысць Саюзу мастакоў не столькі ў тым, што на чале яго стаў менавіта Басалыга, колькі ў тым, што гэта ў прынцыпе новы чалавек у гэтым крэсле. Басалыгаў папярэднік Буралкін старшыняваў аж чатыры тэрміны, так што пра пэўную застойнасць у Саюзе гаварылі небеспадстаўна. Нездарма ж на з'ездзе ў прамове Уладзіміра Басалыгі гаварылася, з аднаго боку, пра патрэбу аднаўлення даверлівай і зычлівай атмасферы сярод мастакоў, а з другога – пра неабходнасць досыць жорсткага кантролю і нават рэвізіі таго, як, куды і за колькі здаецца ў арэнду саюзная ўласнасць. Аднак цяпер па абранні на старшыню рыторыка Уладзіміра Басалыгі значна памякчэла, і ён даводзіць, што проста меў на ўвазе, што трэба зрабіць так, каб гаспадарчая дзейнасць Саюза мастакоў стала больш эфектыўнай і каб гэта адбівалася на матэрыяльным баку жыцця і творчасці мастакоў.



Фота Ул.ШЛАПАКА

А тут справаў непачаты, як той казаў, край. Самы вялікі галаўны боль – нястача майстэрняў і малыя ганарары. Прыкладам, у адным толькі Мінску тры сотні мастакоў не маюць творчых майстэрняў. Што да ганарараў, то ў БСМ ужо распрацаваныя іх мінімальныя стаўкі, якія стануць чыннымі пасля зацвярджэння ў міністэрстве культуры. Большая плата за твор – гэта ўжо як мастак дамовіцца з пакупніком. На з'ездзе мастакі прасілі яшчэ і аднаўлення шырокай практыкі дзяржаўных заказаў. І не тое каб яны любілі маляваць па ўказцы, проста такім чынам будзе гарантаваны заробак. Вось што наконт дзяржзаказу мяркуе Уладзімір Басалыга:

— Дзяржзаказ быў заўсёды. І ў Мікеланджэла, і ў Рафаэля, і ў Веласкеса... Ну а калі дзяржзаказ з ідэалагічнай і палітычнай аздобай, што тут паробіш з мастаком, які на гэта пагаджаецца і бярэцца выконваць? Зараз такіх спрэс ідэалагічных буйных заявак, як былі за камуністычным ладам, няма. Ды і ў дзяржавы, відаць, грошай няма. А вазьміце помнік Скарыну ў Полацку, Агінскаму ў Маладзечне: калі дзяржава замаўляе такое, то гэта ж добра!

***— Якія перспектывы ў справе рэканструкцыі халоднага і пашарпанага Палаца мастацтва?***

— Дзяржава паабяцала, што грошы на гэта будуць бліжэйшым часам выдаткаваныя. Але яшчэ больш цяжкое становішча з Барысаўскім камбінатам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Дарэчы, менавіта тут быў саткаваны унікальны і самы вялікі ў свеце габелен Аляксандра Кішчанкі. На камбінаце даўно ўжо пара мяняць абсталяванне, але наконт яго ніхто нічога не абяцае. З нецярпеннем беларускія мастакі чакаюць завяршэння работ па прыбудове Нацыянальнага мастацкага музея і пераарганізацыі тамтэйшых экспазіцыяў. Усё 20-ае стагоддзе мы праіснавалі з асноўнай экспазіцыяй, дзе былі прадстаўленыя творы выдатных мастакоў, але не беларускіх. Гэта трагедыя, калі карціны мастака закупляюць у музейныя фонды, а ён іх ніколі не бачыць на сценах музея. На выставах бачаць, але музей – гэта музей. Гэта вышэйшая прыступка. Спадзяюся, што старэйшае пакаленне дажыве і пабачыць сябе ў Нацыянальным мастацкім музеі.

***— Спадар Уладзімір, што да прозвішча Басалыга, то цэлая дынастыя мастакоўская атрымліваецца...***

— Я – мастак, мой брат, сын. Але ён іншы мастак, чымсьці я. Такога, як я, мне здаецца, дастаткова аднаго. Мой час – гэта мой час, а ў яго – свой.

***— Вы вядомы найперш тым, што афармлялі кнігу паэзіі Уладзіміра Караткевіча «Мая Іліяда», і цыклам «Помнікі дойлідства Беларусі». Над імі вы, здаецца, працуеце амаль чвэрць стагоддзя?***

— Ён яшчэ незавершаны. Гэтая праца крыху запаволілася ў тым ліку з эканамічных прычынаў. Каб зрабіць працу, яе трэба карміць. Прадасі твор – ёсць магчымасць пагрузіцца ў стварэнне наступнага. У 80-ыя і часткова ў 90-ых гадах гэта ўдавалася. Вось каб знайсці якога спонсара! А задумаў і эскізаў багата. Вось як звыкнуся з новай пасадай, у так званыя творчыя дні паспрабую вярнуцца да гэтага цыклу.

**Гутарыў**
**Мар'ян КАРЫМОНТ**

# Фотавыстава Жэрара Ноэля

46 каляровых фатаграфій, якія адлюстроўваюць краявіды Камбоджы і адрэстаўраваны храм Ангкор, былі прадстаўлены на выставе фотатвораў Жэрара Ноэля, што экспанавалася ў Мінскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна пры садзейнічанні пасольства Францыі ў Беларусі.

Жэрар Ноэль на працягу 20 гадоў быў вядучым фотарэпарцёрам французскага выдання «Фігаро Магазін» і пабываў у шмат якіх краінах свету, у тым ліку як ваенны фотакарэспандэнт. Яго фатаграфіі, прадстаўленыя на выставе, зроблены пасля выгнання з Камбоджы «чырвоных кхмераў».

Старажытная культура Камбоджы была схавана ад еўрапейцаў на працягу многіх стагоддзяў. «Адкрылі» яе напачатку мінулага стагоддзя эксперты з Французскай школы ўсходазнаўства, якія пачалі праводзіць у старажытных храмах рэстаўрацыйныя працы.

Жэрар Ноэль падкрэсліў, што французы аднаўлялі гэтыя храмы на працягу 80 гадоў. Вайна ў В'етнаме, якая адцягнула сілы і сродкі, затым прыход да ўлады ў Камбоджы «чырвоных кхмераў» надоўга спынілі гэтую працу, і помнікі архітэктуры зноў прыйшлі ў заняпад. Сёння, перажыўшы сваё другое адраджэнне, яны карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў турыстаў.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

# Творчая рэабілітацыя

7 снежня ў МЗС Беларусі адкрылася дзіцячая мастацкая выстава, на якой прадстаўлены творы маладых мастакоў Элеаноры Верамейчык, Уладзіміра Лунева, Евы Тыльковай, Аляксандра Стэльмакова, Андрэя Яўменава і іншых, якія займаюцца ў «Інвастудыі» пры ўстанове культуры і вольнага часу інвалідаў «Інвацэнтр» Грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства інвалідаў». Выставу адкрыў міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Міхаіл Хвастоў. Паводле яго слоў, «Інвастудыя» – арганізацыя маладая, якая існуе са студзеня 1999 году, аднак яе дзейнасць ужо добра вядома ў краіне. «Хацелася б адзначыць, што праект «Інвастудыі» аб «Творчай рэабілітацыі інвалідаў у галіне мастацтва» выйшаў пераможцам кірмашу праектаў, праведзенага праваслаўнай царквой пад патранажам фонду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры», – адзначыў Хвастоў. «Інвастудыя» таксама брала ўдзел у міжнародных праектах, праводзімых дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі Італіі, ЗША, Расіі, Германіі і іншых краін у Рэспубліцы Беларусь, удзельнічала ў выставах, якія праводзілі таварыствы інвалідаў Беларусі і Расіі.

Галоўная задача, якую ставіць мастацкая студыя – творчая рэабілітацыя дзяцей-інвалідаў. На лістапад 2001 года ў студыі займаецца 24 чалавекі ва ўзросце ад 9 да 30 гадоў. Са студыйцамі працуюць прафесійныя педагогі-мастакі па наступных кірунках: жывапіс, малюнак, лепка, кераміка, роспіс па шоўку – батык, саломапляценне, габелен, роспіс па шкле. Студыя пастаянна праводзіць набор маладых інвалідаў з усёй краіны шляхам правядзення майстар-класаў і семінараў. Адным з асноўных праектаў студыі з'яўляецца падрыхтоўка маладых інвалідаў да паступлення ў мастацкія навучальныя ўстановы.

**Маша ПЯТРОВА**

# Цэнзура – праява боязі

***«Цэнзура – гэта недавер надзеленых уладай людзей да Мастака. Гэта недавер і падозранасьць да Творцы, які імкнецца адкрыць і падараваць людзям сваёй краіны і ўсяму сьвету Новае Хараство і Гонар, дабрыню і сарказм, развагі і сумненьні пра сучасныя зьявы жыцьця.***

***Недавер гэты выклікае крыўду і горыч, пачуцьцё бясьсільля і марнасьці і, у сваю чаргу, спараджае недавер Мастака да грамадзкасьці, народу, Краіны.***

***Я заклікаю пакласьці гэтаму канец.***

***Я заклікаю давяраць Мастаку, бо гэта чалавек, які глыбей за іншых інтуітыўна адчувае Прыўкраснае, Будучыню і Шлях.***

***Давер да Мастака пасрпыяе кансалідацыі і спыніць раз'яднаньне, якое пануе ў краіне сёньня, злучыць людзей у імкненьні да Любові, Хараства і Адраджэньня Радзімы».***

**Алесь ПУШКІН,**
**10.XII. 2001 года.**

10 сьнежня (у дзень абвяшчэньня Усеагульнай Дэкларацыі Правоў чалавека) у 17.00 у мастацкай галерэі «Золата» (па адрасе вул. Сурганава, 14) адбудзецца адкрыцьцё выставы «Не дозволено цензурой» (*творы 1990-2001, якія падпалі пад цэнзуру*).

На выставе будуць выстаўленыя наступныя творы:

**Мастак А.Пушкін**
**Рэжысёр А. Грышкевіч**

**Макет сцэнаграфіі і эскізы строяў да спэктакля паводле Габрыэля Гарсіа Маркеса «Палкоўніку ніхто не піша».**

Нацыянальны Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, г.Віцебск, 2001 год, красавік-травень.

Пасьля публікацыі анонсу ў «Белорусской деловой газете» дырэктару тэатру патэлефанаваў чыноўнік аддзелу тэатраў міністэрства культуры Вацлаў Браніслававіч Валадзько (працоўны тэл. 223-91-31) і загадаў ***«зьняць спэктакль з дзяржзаказу».***

**Алег Карповіч**
**Аляксей Марачкін**
**«Нашы лялькі», 1998 год**

У сакавіку 1998 году твор зьняты з выставы суполкі «Пагоня» ў Палацы мастацтва.

Падстава – загад міністра культуры У.Сасноўскага.

**Леў Талбузін**
**Ганаровыя медалі беларускага Пэн-Клюбу, 1996 год.**

Зьлева: па публіцыстыцы Алеся Адамовіча.

Справа: па прозе Францішка Багушэвіча.

Медалі адвергнутыя Генадзем Гаркуновым, кіраўніком фармаваньня выставы «10 год Чарнобылю» у 1996 годзе. Фармулёўка: ***«няхватка экспазыцыйных месцаў».***

**Леў Талбузін**
**Аляксей Марачкін**

Інсталяцыя 1996 году, зьнятая з выставы суполкі «Пагоня» у Палацы мастацтва.

**Алег Карповіч**

**«Цяжкая атлетыка»**, 1996 год, зм. тэхніка.

**«Плошча Незалежнасьці»**, 1998 год, зм. тэхніка.




**«Welcome to Belarus»**, 1999 год, зм. тэхніка.

**«Вертыкаль—IV»**, 1998 год, зм. тэхніка.

Працы зьнятыя з выставы суполкі «Пагоня».

**Таццяна Маркавец**
**Трыпціх «Вокны»**, 1998 год, папера, зм. тэхніка, калаж, 60 х 80.

Праца зьнятая з выставы суполкі «Пагоня» 25 сакавіка 1998 году, Палац мастацтва.

**Алесь Пушкін**
**«Зь мінулага»**, 1989 год, палатно, 300 грамаў крыві аўтара, 200 х 100.

Праца зьнятая з рэктарскага прагляду (рэктар В.П.Шаранговіч) Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытуту. Толькі пасьля таго, як Алесь Пушкін зьняў твор і вынес з інстытуту, прагляд аднавіўся.

**Алесь Пушкін**
**«Памяці змагароў за Беларусь»**, 1989 год, палатно, камяні, кроў, 100 х 100.

Праца зьнятая з рэктарскага прагляду (рэктар В.П.Шаранговіч) Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытуту. Толькі пасьля таго, як Алесь Пушкін зьняў твор і вынес з інстытуту, прагляд аднавіўся.

**Алесь Пушкін**
**«Плавільшчыкі расы»**, 1995 год, пал. алей.

Падчас выставы «Жанчына ў творчасьці А.Пушкіна», што мелася адбыцца ў Віцебскай абласной філармоніі (1996 год, сакавік), дырэктар філармоніі Ірына Васільеўна Бабенка запатрабавала зьняць твор з экспазыцыі за «излишний эротизм»: ***«Уж слишком откровенная пара!».*** Мастак не згадзіўся, таму выстава так і не была адчыненая.

**Алесь Пушкін**

Пасьля разгляду праекту і тлумачальнай запіскі архіепіскап Віцебскі і Аршанскі Дзьмітры прамовіў: ***«Да, к Истории нужно относиться бережно и осторожно... А росписям, где нашлось место Иосафату Кунцевичу, не пришло еще время...».*** Віцебск, восень 1998 год.

**Алесь Пушкін**
**Роспіс «Глёрыя»**: фрэска, капліца Сьвятога Язэпа ў Магілёўскім Архікатэдральным касьцёле. Плошча 26 кв.метраў, 1995 год, красавік.

У чэрвені 1996 году, пасьля эміграцыі Зянона Пазьняка, перад кансэкрацыяй Магілёўскага Архікатэдральнага касьцёлу ксяндзом-пробашчам Уладзіславам Блінам быў дадзены загад завесіць гэтую фрэску палатном. Так яна і засталася завешанай і па сёньня.

**Алесь Пушкін**
**Інсталяцыя «Адзеньне беларуса канца XX стагодзьдзя».**

З-за гэтай інсталяцыі 6 чэрвеня 1991 году не адчынілася выстава Алеся Пушкіна ў Гарадзенскім Новым Замку. Адказнасьць узяла на сябе Алена Андрэеўна Салаўёва (лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі за 2000 год), дырэктар Гарадзенскага гісторыка-археалагічнага музея-запаведніка.

**ГА «Праваабарончы цэнтр «Вясна»,**
**Галерэя «У Пушкіна»,**
**Творчая Суполка Саюза Мастакоў Беларусі «Пагоня»**

**10 снежня прэзентуюць выставу**
**«НЕ ДОЗВОЛЕНО ЦЕНЗУРОЙ»**
***Выстава твораў 1990-2001, якія падпалі пад цэнзуру***

**Выстава ладзіцца з 10 па 20 снежня ў мастацкай галерэі «Золата» па адрасе: Мінск, вул. Сурганава,14**

# Алімпійскія гульні вяртаюцца да грэкаў

Як вядома, першыя Гульні 21-га стагоддзя вырашана правесці на радзіме алімпіядаў у 2004 годзе. Хоць да іх яшчэ не надта блізка, Грэцыя вядзе фундаментальную падрыхтоўку. Адзін з самых вядомых помнікаў антычнай культуры — Парфенон, як і ўвесь афінскі Акрапаль, ператварыўся ў будаўнічую пляцоўку. Тут адбываецца рэканструкцыя — самая вялікая і дакладная за два з паловай тысячагоддзі існавання гэтай унікальнай пабудовы. Ёй папярэднічаў міжнародны тэндар, які выйгралі швейцарскія архітэктары, цяпер іхні праект абяцае вярнуць старажытнай грэчаскай святыні той выгляд, які яна мела ў 5-ым стагоддзі да нашай эры і да разбурэння гарматным агнём венецыянцаў у сярэднявечча.



Безумоўна, што сама Грэцыя не магла б фінансава забяспечыць такое буйнамаштабнае мерапрыемства, як Сусветная Алімпіяда. Грэцыя — сярэдняя еўрапейская краіна, насельніцтва тут, як у Беларусі, крыху болей за 10 мільёнаў чалавек. Таму дапамогу радзіме алімпійскіх гульняў акажуць Еўрасаюз ды іншыя краіны свету. У Грэцыі ўжо ствараецца 130 тысяч новых рабочых месцаў. Плануецца, што грэчаская сталіца прыме на алімпіяду 150 тысяч турыстаў. Валанцёраў для забеспячэння парадку і дапамогі турыстам патрабуецца 60 тысяч. Пачынаецца іх навучанне. У Афінах пабудавана метро, і ўжо год як яно працуе, адкрыт новы сучасны аэрапорт. На час алімпіяды спатрэбіцца каля 10 тысяч вадзіцеляў для абслугоўвання турыстаў. Для 15 тысяч журналістаў будуюцца 5 спецыяльных вёсак. Для 17 тысяч спартсменаў узводзяцца катэджы паблізу алімпійскіх аб'ектаў. Грэчаскі цэнтр падрыхтоўкі алімпіяды плануе звярнуцца да ўсіх краінаў са зваротам спыніць на час Алімпійскіх гульняў усе ваенныя дзеянні, як тое заўжды было ў старажытнасці, пачынаючы з 776 года да нашай эры, калі адбылася першая алімпіяда.

**Ігар ШЫНКЕВІЧ**

# Біятланісты адкрылі сезон бронзай

Не сакрэт, што большасць надзей на хоць якія медалі на Зімовай алімпіядзе ў амерыканскім горадзе Солт-Лэйк-Сіці беларускія спартыўныя чыноўнікі і простыя аматары спорту ўскладаюць на нашыя біятлонныя каманды. У мінулыя выходныя яны распачалі свой доўгі сезон, які будзе складацца з дзевяці этапаў кубка свету, суперкароткага чэмпіянату свету і непасрэдна алімпійскіх гульняў.

Першы з этапаў кубка прайшоў у аўстрыйскім горадзе Хохфільцэн у абсалютна непрыдатных умовах. Капрызнае надвор'е выдала пры нулявой тэмпературы рэкордную колькасць асадкаў, і часам было незразумела нават, як біятланісты трапляюць яшчэ ў мішэні пры такой бачнасці.

У спрынтэрскіх гонках беларусы выступілі няўдала. Неабноўлены склад мужчынскай зборнай заняў месцы з 29-га (Алег Рыжанкоў) па 38-е (Вадзім Сашурын).

А вось у жаночай зборнай у гэтым годзе шмат навічкоў. Гэта біятланісткі, якія не праходзілі па сваіх дадзеных у расійскую зборную і прынялі на гэтай падставе беларускае грамадзянства, каб хоць так паехаць на алімпіяду і этапы кубка свету. Але ні «новенькія» Алены – Хрусталёва і Куцапалава, ні тутэйшыя на чале з Назаравай нічога ў спрынце зрабіць не маглі. Лепшае – 34-е — месца ў Назаравай.

Як заўсёды, найбольш спадзяваліся на эстафету. У жаночай, нягледзячы на беспамылковыя стрэлы на ўсіх этапах, ужо з самага пачатку беларускі безнадзейна адсталі ад спаборніц і занялі ў выніку толькі адзінаццатае месца.

У мужчынскай жа беларусаў чакаў першы медаль. З самага старту нашы прадэманстравалі свае сур'ёзныя намеры і да самага фінішу трымаліся ў групе лідэраў разам з немцамі, нарвежцамі і чэхамі. Пазней беларусы разам з чэшскай камандай адсталі і разыгралі трэцяе месца, якое нам прынёс Вадзім Сашурын. Перамаглі ж немцы.

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

# Кітайскім вужакам не пазайздросціш

*Газета China Daily надрукавала трывожны артыкул: кітайцы любяць есці змяінае мяса і з'ядаюць яго болей за 10 000 тон штогод. Аказваецца, змяінае мяса мае вельмі карысныя тэрапеўтычныя якасці; апроч таго, змей гатуюць па розных экзатычных рэцэптах — стравы са змяінага мяса лічацца надта вытанчаным далікатэсам. Менавіта з-за народнае любові да такіх страваў некаторыя віды рэптыліяў могуць назаўжды знікнуць. Прыкладам, кобра звычайная.*

Да таго ж спажыванне змяінага мяса, якое, на густ кітайцаў, мае вельмі высокія пажыўныя ўласцівасці, у апошнія гады безупынна ўзрастае — прапарцыянальна эканамічнаму развіццю Кітая. Грошы наступаюць на змеяў. Таксама змеі шырока выкарыстоўваюцца і ў традыцыйнай медыцыне краіны як лекавы сродак.

На думку экспертаў кітайскай асацыяцыі па ахове навакольнага асяроддзя, многія віды змеяў ужо апынуліся пад пагрозай вымірання. У прыватнасці, 43 віды з зарэгістраваных у Кітаі 209-ці ўжо занесеныя ў спіс жывёлаў, якія ахоўваюцца, і менавіта дзякуючы ініцыятыве асацыяцыі па ахове навакольнага асяроддзя іх вынішчэнне было забаронена.

Генеральны сакратар кітайскай асацыяцыі па ахове навакольнага асяроддзя Ван Фусін абураецца тым, што «рэстараны надта ж стараюцца выкарыстоўваць змяінае мяса, каб прыцягнуць новую кліентуру». Шмат у якіх рэстаранах няшчасных вужакаў забіваюць проста на вачах у наведнікаў, перад тым як падаць ім свежую змяіную кроў, якая танізуе чалавечы арганізм. Але адпаведных жорсткіх законаў, якія б забаранялі такое стаўленне да прадстаўнікоў жывёльнага свету, пакуль у Кітаі няма, а прапагандысцкія кампаніі ў СМІ з заклікамі спыніць вынішчэнне змеяў не праводзяцца.

**«il Nuovo»**



# Па золата пойдуць мутанты

*Нядаўна Міжнародны алімпійскі камітэт зацвердзіў спецыяльную праграму барацьбы з геннымі відамі допінгу, якія марудна, але няўхільна прыходзяць на змену састарэлым ужо біястымулятарам. Прычым, у адрозненне ад анабалічных стэроідаў, генны допінг не паддаецца стандартным тэстам. Алімпійскія чыноўнікі з бояззю чакаюць гульняў 2012 году — на думку вучоных колаў, менавіта тады спартыўны рух усур'ёз сутыкнецца з праблемай геннага допінгу і генетычна палепшаных спартсменаў.*

На апошняй канферэнцыі кансультатыўнай групы МАК па допінгу функцыянеры спорту, вучоныя і медыкі ў чарговы раз намагаліся вырашыць, што можна лічыць допінгам, а што — не. Цяпер у спісе забароненых да ўжывання прэпаратаў значацца каля 10 тысяч найменняў, і гэты спіс пашыраецца з кожным днём. Дасюль допінгам лічыўся любы сродак, які паляпшае дасягненні спартсмена і пры гэтым шкодна адбіваецца на яго здароўі ці дае пабочныя эфекты. Паколькі навука сёння шчыльна наблізілася да стварэння бясшкодных, але вельмі эфектыўных біястымулятараў, усё ідзе да забароны прымянення ў «вялікім» спорце любых біялагічна актыўных рэчываў. Інакш Алімпійскія гульні ператворацца ў спаборніцтвы фармаколагаў і генетыкаў, якія пічкаюць падвопытных спартсменаў навейшым зеллем.

Адзін з буйнейшых допінгавых скандалаў, звязаных з новымі відамі стымулятараў, успыхнуў у часе велагонкі «Тур дэ Франс» тры гады назад. Тады некалькі дзесяткаў гоншчыкаў патрапілі на падазрэнне ва ўжыванні найноўшага допінгу ЭПА – сінтэтычнага гармона эрытрапаэтыну, які стымулюе ўтварэнне эрытрацытаў, гэта значыць чырвоных крывяных цельцаў. Эрытрацыты пераносяць кісларод у тканкі арганізму, і чым болей іх ёсць у крыві, тым лепш — спартсмен робіцца здольны трываць вялізныя фізічныя нагрузкі. Эрытрапаэтын чалавека зараз робяць, прымяняючы метады геннай інжынерыі, з аналагічных рэчываў некаторых насякомых і эрытрапаэтыну, які ўтрымоўваецца ў клетках яечніка кітайскага хамячка. Нельга вызначыць адназначна, што ЭПА адмоўна ўплывае на здароўе спартсменаў. Тут усё вельмі індывідуальна. Часам падвышэнне колькасці эрытрацытаў можа правакаваць сардэчныя прыступы і закупорку сасудаў, а іншым разам не.

У гісторыі спорту вядомыя выпадкі, калі анамальна вялікая колькасць эрытрацытаў выпрацоўвалася натуральным шляхам. Напрыклад, адзін з алімпійскіх чэмпіёнаў па лыжным кросе меў даволі рэдкую мутацыю, дзякуючы якой у ягонай крыві ўтрымлівалася ў 1,5 разы болей эрытрацытаў, чым у іншых спартсменаў.

Да месца сказаць, не надта даўно МАК забараніў іншы від бясшкоднага крывяного допінгу — аўтагематрансфузію. Метад гэты просты, не мае ніякіх адносінаў да генетыкі і шырока выкарыстоўваецца ў звычайнай медыцыне: за 10 дзён да спаборніцтваў у спартсмена бяруць 400 мл крыві і кансервуюць. Лёгкае крывапусканне выклікае ўзмоцненую рэгенерацыю тканак і кроваўтварэнне, узмацняючы атлета. У дзень спаборніцтваў спартсмену зноў уліваюць кансерваваную кроў, за кошт чаго ўзровень эрытрацытаў падскоквае адсоткаў на 30-40. Відавочна, што пасля чарговага рэкорду ніякі допінг-тэст нічога не пакажа, і атлет атрымае свой несправядліва зароблены медаль.

Са штучным гармонам росту справа абстаіць прыкладна гэтак жа, як з эрытрапаэтынам — пакуль ён лічыцца допінгам-невідзімкай і не мае яўных пабочных эфектаў. Ужо зараз праводзяцца эксперыменты па ўключэнні ў ДНК рэцыпіентаў генаў, якія стымулююць выпрацоўку пэўных бялкоў і гармонаў. Гэта адкрывае перад спартсменамі амаль неабмежаваныя перспектывы па палепшанні вынікаў у абраных імі відах спорту. Паляпшаць можна не толькі будучых, але дзеючых спартсменаў, прычым гэтак, што ніводзін доктар у свеце нічога не западозрыць. У ЗША і Новай Зеландыі вучоныя актыўна эксперыментуюць з генамі, якія адказваюць за рост мышцаў. Ужо выдзелены ген міястатыну — гармону, які рэгулюе аб'ём мышачнай масы. Цяпер даследнікі намагаюцца блакаваць гэты ген і выклікаць рэзкае прыбаўленне ў вазе ў паддоследным статку буйнай рагатай жывёлы. З людзьмі зрабіць такі фокус не будзе нашмат складаней, і калі ўсё пройдзе ўдачна, то ўжо праз колькі гадоў культурыстам зможа стаць кожны, хто гэтага пажадае, прычым без стомных трэніровак у атлетычнай зале і шкоднай стэроіднай дыеты.

Хутчэй за ўсё сігналам, што першая генетычная алімпіяда стартавала, будзе незвычайны выбух сусветных рэкордаў у хуткасці, цягавітасці і падняцці штангі. Аднак, калі гэты мутацыйны кашмар пачнецца, аматары спорту змогуць забаўляцца тымі адзінаборствамі, якія патрабуюць ад удзельнікаў не толькі фізічнай сілы, але і таленту, — шахматамі, фехтаваннем ці мастацкай гімнастыкай. Зразумела, калі да таго часу даследнікі не вынайдуць трасгенныя стымулятары разумовай актыўнасці і кардынацыі рухаў.

Ужо цяпер адна проба на існуючыя біястымулятары каштуе каля 250 даляраў. Выдаткі на медыцынскі кантроль у часе буйных міжнародных чэмпіянатаў даўно перабольшылі кошт іх арганізацыі. Распрацоўка метадаў геннага кантролю за станам спартсменаў павялічыць выдаткі на допінг-тэсты ў некалькі разоў. Алімпійскаму камітэту прыйдзецца прыцягнуць і расходаваць сотні мільярдаў даляраў дадатковых асігнаванняў.

**Барыс АВЕЧКІН**

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 10 – 16 снежня

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***



**АВЕН.** Падпісванне папер, беганіна ў аўторак абяцае грашовыя або фізічныя выдаткі, якія могуць не акупіцца. Ёсць верагоднасць хваравітых праяваў з невядомае крыніцы. Лепей арыентавацца на калектыўную падтрымку, інфармацыйную кампанію, вырашаць пытанні праз пасярэднікаў. У пятніцу і суботу трэба мецiць вышэй, рыхтавацца адзначыць заключэнне саюзу.



**ЦЯЛЕЦ.** Зацягніце тужэй папругу і чакайце лепшых часоў. Не спяшайцеся далучаць неправераных сяброў да вырашэння вашых фінансавых праблемаў – яны самі могуць застацца ні з чым. Але ў панядзелак варта прыслухацца да каштоўных парадаў пра ўладкаванне на працу альбо пра змену роду дзейнасці. У пятніцу і суботу вашыя стасункі з сужонкам альбо партнёрам будуюцца на жарсцях, выбухах і рэўнасці.



**БЛІЗНЯТЫ.** Усё тайнае робіцца яўным, але вы гатовы зрабіць памылку пры кантактах з начальствам; кропкі над «і» пажадана расстаўляць у чацвер. З'явяцца абнадзейлівыя звесткі наконт дальняе паездкі альбо доўгатэрміновага супрацоўніцтва. У пятніцу і суботу пачуцці вырываюцца вонкі; публічны скандал, які намячаецца, пойдзе на карысць. Нехта рыхтуецца пагуляць на вяселлі альбо на вялікім юбілеі.



**РАК.** Няма нічога больш каштоўнага, чым здароўе – сваё і блізкіх. Выпрабаванне арганізму на трываласць нічога добрага не абяцае, трэба больш любіць сябе. Нехта паспрабуе вучыць вас жыццю, падбівае на сумнеўныя мерапрыемствы. Не замыкайцеся ў вузкім коле, калегі могуць аказацца мудрэйшымі, больш вынаходлівымі і прыязнымі за вас. У пятніцу і суботу не крыўдзіце тых, каму вінаватыя – давядзецца адказваць.



**ЛЕЎ.** Любоў ператвараецца ў зямную матэрыю, нават узнікае адчуванне, што пачуцці «высахлі» і патрабаванні робяцца ўсё больш жорсткімі. Любімы чалавек занадта ўпарты – не націскайце, бо можна чакаць зусім непрадбачанай рэакцыі. У панядзелак і чацвер сустрэча з сімпатычным чалавекам выклікае асабістае зацікаўленне, нават лёгкі флірт. Бліжэй да выходных любоў можа ўвасобіцца ў маленькага спадкаемцу.



**ПАННА.** Сямейнікі і блізкія людзі азадачваюць кучаю праблемаў; вы ўбачыце, што не ўпісваецеся ў бюджэт. Аднак не варта з надта вялікім імпэтам брацца за справу, наводзячы яшчэ больш туману. Пад выходныя малюнак будзе выразнейшы і фарбы радасцяў жыцця больш сакаўныя. У доме давядзецца накрываць стол. Нехта аднолькавага з вамі прафесійнага статусу падказвае новыя ідэі на працы.



**ШАЛІ.** Вы нешта прапусцілі ў працэсе паездак і сустрэч. Асцярожней з транспартам, бо штрафу або паломак не мінуць, асабліва ў аўторак і сераду. Суседзі зверху даюць непрыемнасцяў, але ў выпадковых, здавалася б, рэчах хаваецца заканамернасць. Панядзелак і чацвер – дні прыёмаў, розыгрышаў і выдатнай інтэлектуальнае працы. Бліжэй да выходных паездка альбо сустрэча ў кампаніі абяцае прыбытак або радасць.



**СКАРПІЁН.** Затрымка выплат альбо матэрыяльныя абмежаванні ўспрымаюцца з цяжкасцю. Але цярпець засталося нядоўга. Нехта з сяброў у панядзелак і чацвер выручае ў вырашэнні хатніх праблем, дапамагае набыць альбо ўзяць у арэнду карысныя рэчы альбо сродкі. У сераду не паддавайцеся на правакацыі любімага чалавека альбо дзіцяці, бо любая складаная сітуацыя, якая ўзнікне, не мае паўнаты прадстаўлення.



**СТРАЛЕЦ.** Вы мусіце ўзяць на сябе няпростыя абавязкі, хоць і можаце супраціўляцца напору прывабнага партнёра. Вось толькі ў аўторак і сераду не ўмешвайцеся ў фундаментальныя пытанні – нашкодзіце ўсяму, чаго дасягнулі раней. У панядзелак навакольныя, калегі ўдыхаюць свежыя пачуцці, гумар і натхняюць браць новыя вяршыні. Фактар удачы альбо сустрэчу з творчым чалавекам у чацвер скарыстайце па максімуме.



**КАЗЯРОГ.** Балячкі ўскокваюць адна за адной, праблемы з зубамі не даюць спакою і адымаюць шмат грошай. Праўда, у панядзелак і чацвер можа надарыцца магчымасць зарабіць нават на самоце, а можа – вярнуць схаванае. Абставіны прымушаюць вас шукаць адзіноты. Не спадзявайцеся на выпадак. У пятніцу і суботу накрэсліваецца «тайная вячэра» з прыемным чалавекам.



**ВАДАЛІЎ.** У вашым жыцці – аўрал і рэфарматарская бура. Навакольным вы здаяцеся дзіўным. Дом – будан на колах. Нехта з родных людзей у аўторак ставіць ультыматум супраць вашае сувязі з нейкім чалавекам, выказвае незадаволенасць недастатковаю ўвагаю да дзяцей. І вы можаце пазбыцца часткі сродкаў і сіл. У пятніцу і суботу будзе нагода павесяліцца з сябрамі або ў цікавай кампаніі.



**РЫБЫ.** Вы ўцягнуты ў справы блізкіх і родных, у якіх вельмі неадназначная сітуацыя. Праблема выбару, варыянтаў шляху. Толькі не спяшайцеся нешта рабіць у аўторак і сераду – памылка будзе ракавою. У панядзелак і чацвер накрэсліваюцца выдатныя прафесійныя магчымасці, нехта гатовы зрабіць з вас начальніка альбо эксперта. У пятніцу і суботу адчуеце сябе героем, а нехта – вялікім падарожнікам.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1794 Нумар падпісаны ў друк 9/12/2001 (15:00) Наклад – 9.090